



# Рэгіянальная газета. Rh.by




Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

31 кастрычніка 2014 года №44 (1018)





**25 сродкаў касметыкі, каб прыбрацца на адзін вечар**

Журналісткі падлічылі, якім арсеналам прыгажосці валодаюць беларускі

старонка 20



**Маладая мама: "Шэсць гадоў нашу дашлюбныя чаравікі"**

Як маладая сям'я размяркоўвае сямейны бюджэт, на што траціць грошы і якім чынам плануе пабудаваць кватэру

старонка 3

**Выламаў замок, каб скрасці два яйкі**

с. 4

**Расклад руху цягнікоў на зімовы перыяд**



с. 21

## Дадатковыя аўтобусы пусцяць на Дзяды

**МАЛАДЗЕЧНА.** Дадатковы аўтобус будзе хадзіць 31 кастрычніка, 1 і 2 лістапада ад школы №5. Першы рэйс адправіцца ў 10 раніцы, апошні – у 15:50. З Лазаўца апошні аўтобус адправіцца недзе ў 16:15. Аўтобус будзе хадзіць праз кожныя 50 хвілін.

**ВІЛЕЙКА.** 1 лістапада ў Вілейцы аўтобус маршруту №3 ад прыпынку "Аранжарэя" да "Могілак "Лясныя" будзе хадзіць ад 9:25 раніцы да 15 гадзін. Аўтобус па маршруце №5 ад прыпынку "Макаўе" да "Могілак "Лясныя" – ад 9:10 да 14:40. Абодва маршруты ад пачатковых прыпынкаў будуць хадзіць раз на гадзіну.

**Наталля ТУР, Алесь ВЫСОЦКІ.**



# Пяць баёў Кудзіна каштуюць як гадавы заробак астранаўта NASA




Фота забяспечана Аляксеем КУДЗІНЫМ.

Аляксей Кудзін – сусветна вядомы баец змешаных баявых адзінаборстваў (ММА – ад англ. Mixed Martial Arts). Баі з яго ўдзелам транслююць на 200 краін свету.

**МАЛАДЗЕЧНА. Аляксей – шматразовы чэмпіён свету па тайскім боксе, двойчы станавіўся лепшым у свеце па кікбоксінгу. Жыве ў Маладзечне, разам з жонкай Таццянай выхоўваюць двухгадовую дачку Сцешу, будуе спартыўны рынг і займаецца маржаваннем.**

Аляксею Кудзіну 29 гадоў. Нарадзіўся ў Маладзечне. Ён сярэдні сын у сям'і. Як прызнаецца сам, сям'я да спорту не мае ніякага дачынення. У Маладзечне скончыў сярэднюю школу №2. З сямі гадоў пайшоў у плаванне, займаўся ў трэнажорнай зале, спрабаваў сябе ў грэка-рымскай барацьбе.

У 9 класе ў рукапашны бой Аляксея прывяла… аднакласніца.

– Яна была спартсменкай. Прывяла мяне да трэнера **Алега Антонавіча Пятровіча**, я паспрабаваў і застаўся ў спорце назаўжды.

### Я не памятаю, хто адправіў мяне ў накдаўн

Пра ўзнагароды Аляксея Кудзіна аднойчы напісалі, што калі іх павесіць на шыю дзесяці сланам – жывёлы не вытрымаюць.

**Рост Аляксея 188 см, вага – 106 кілаграмаў.**

– Гэта сапраўды так, – сціпла адказвае Аляксей. – Усе ўзнагароды, медалі, паясы захоўваюцца ў маёй мамы дома. Яна іх нікуды не перадае, сама стварае мой музей.

Свой першы чэмпіянат свету па тайскім боксе Аляксей Кудзін выйграў у Тайландзе ў 2006 годзе. Пасля гэтага неаднаразова станавіўся лепшым з лепшых.

– Сёлета мне спаўняецца 30 год, самы час пераходзіць з аматараў у прафесіяналы. Для сябе вырашыў, што вышэй за галаву не скочыш. Што хацеў – ужо даказаў. Трэба даць дарогу маладым. А то перамагаць 11 год запар – гэта неяк бессаромна.

Сярод маладзечанскіх байцоў Аляксей называе імёны 24-гадовага **Сяргея Фалея** і 18-гадовага **Пятра Бірко.** У гэтых спартсменаў, па словах Кудзіна, вялікая будучыня.

**– Паражэнні свае памятаеце?**

– Паражэнне накдаўнам – сітуацыя, пры якой баец, збіты з ног ударам, можа цягам 10 секунд падняцца і працягваць бой – было ў маёй кар'еры двойчы. Першы раз на чэмпіянаце свету ў 2008 годзе. Быў бой супраць спартсмена з Казахстана. Тады ад яго няслабы ўдар зляціў. А другі накдаўн чамусьці не запомніў. Ён быў, але калі і ад каго, не памятаю. Для мяне важна ўзяць рэванш. Дарэчы, з тым казахам мы сустрэліся ў 2011 годзе. Пасля першага раўнда ён не змог прадаўжаць бой. Так што мы квіты.

**Наталля ТУР.**

Працяг інтэрв'ю на 22-й старонцы.

Звесткі аб заробку амерыканскіх астранаўтаў узятыя з сайта расійскага навукова-папулярнага часопіса Naked Science.

● НАМ ПІШУЦЬ

# Навес выратаваў бы вяскоўцаў ад непагадзі

**МАЛАДЗЕЧНА. Да нас у рэдакцыю звярнулася жыхарка вёскі Еленка Алёхнавіцкага сельсавета Вольга Завацкая. Яна просіць дапамогі дастукацца да мясцовых уладаў, каб над прыпынкам у вёсцы зрабілі навес.**

– У вёсцы няма магазіна, прыязджае аўталаўка. Вядома, сустракаць яе жыхары выходзяць загадзя. Бачылі б вы, як на гэта балюча глядзець, калі на лавачцы сядзяць, прытуліўшыся адзін да аднаго, нашы бабулі і дзядулі. Не раўнуючы, як тыя мерзлыя грыбочкі. А калі ўявіць, што вось-вось пачнуцца дажджы і выпадзе снег...

У Еленцы кожную раніцу школьны аўтобус забірае двое дзетак школьнага і дашкольнага ўзросту. Яны вымушаныя зранку чакаць аўтобус, не схаваныя ад часам неспрыяльнага надвор'я.

Вольга Завацкая – стараста вёскі. Яна часта звярталася ў сельсавет з просьбай паставіць навес над прыпынкам.

– У нас у вёсцы адны пенсіянеры! Няўжо так цяжка сельсавету прысылаць работнікаў, каб тыя ўкапалі ў зямлю чатыры слупы і павесілі навес?

Гэта пытанне мы перанакіравалі старшыні Алёхнавіцкага сельсавета **Ганне Фурс.**

– Літаральна некалькі дзён таму мы праводзілі сельскі сход. Жыхары Еленкі агучылі сваю просьбу. Яе, як і падобныя просьбы з вёсак Дубрава, Старынкі, мы накіравалі ў ДРБУ-195. Арганізацыі трэба месяц, каб разглядзець зварот грамадзян. Пачакаем адказу ДРБУ.

**Наталля ТУР.**



Фота Настассі РОЎДЫ.

**Жыхарка вёскі Еленка. Чакаць аўталаўку на пяньку вясной хараша. А зімой? Фота зроблена ў вёсцы Еленка ў красавіку гэтага года.**

ЛІЧБА НУМАРА

**16 377**

**Стольки людзей у Беларусі жыве ў дамах-інтэрнатах для састарэлых і інвалідаў**

По дадзеных Нацыянальнага статыстычнага камітэта Беларусі

Інфаграфіка Настассі РОЎДЫ.

● ДАБРАЧЫННАСЦЬ

## На Вілейшчыне збіраюць грошы ў дапамогу інвалідам

**ВІЛЕЙКА. Ад 3 лістапада ў Вілейскім раёне стартуе традыцыйны дабрачынны марафон.**

Пералічаныя на дабрачынны рахунак грошы накіруюць на аказанне дапамогі інвалідам. У тым ліку – на закупку лекаў, сродкаў гігіены і іншага.

Праводзіцца марафон пад дэвізам "Рабі вялікае, не чакаючы вялікага". Будзе ён доўжыцца да 3 снежня.

Разліковы рахунак такі: 3642063200107 у ЦБУ №632 г. Вілейка філа №601 ААТ АСБ "Беларусбанк" у г. Маладзечна, код 153001769, УНП 600690567, ОКПО 29113311, ДУ "Вілейскі тэрытарыяльны цэнтр сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва" (з пазнакай "дабрачынны марафон").

Названы цэнтр з'яўляецца ініцыятарам акцыі.

Летась падчас марафону сабралі амаль 122 мільёны рублёў.

**Аддзел інфармацыі.**

● ГРАМАДСТВА

## 500 чалавек прэтэндуюць на арэндны дом

**МАЛАДЗЕЧНА.** 28 кастрычніка, у аўторак, скончыўся тэрмін падачы заяў на арэнднае жыллё.

Начальнік аддзела жыллёва-камунальнай гаспадаркі райвыканкама **Сяргей Бохан** адзначыў:

– Па законе засяляць людзей у кватэры можна праз 15 дзён пасля таго, як скончылі падаваць заявы.

Усяго ў доме 80 кватэр, 32 з іх ужо размеркавалі сярод прадстаўнікоў сілавых і праваахоўных структур, маладых спецыялістаў. Яшчэ 48 кватэр чакаюць сваіх гаспадароў. Дом месціцца па вуліцы Лясная, 6.

**Галіна СІНІЦА.**





● КУЛЬТУРА

## Тры дыпломы заслужылі віляйчане на "Тэхна-Эвалюцыі"

**ВІЛЕЙКА.** Ад 1 да 16 кастрычніка ў Мінску праходзіў абласны этап рэспубліканскай выставы тэхнічнай творчасці "ТэхнаЭвалюцыя". У пяці намінацыях прадставілі больш за 50 прац.

Навучэнцы і педагогі Вілейскага раённага цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі прадставілі экспанаты ў трох намінацыях, паведаміла дырэктар установы **Жанна Скуратовіч.**

Заваявалі яны тры Дыпломы ўпраўлення адукацыі Мінаблвыканкама.

Дыплом першай ступені ў намінацыі "Суднамадэляванне" заслужыла праца навучэнца **Яўгена Роліча**. Яшчэ адзін Дыплом першай ступені – у намінацыі "Авіямадэляванне" – на рахунку **Аляксандра Алінцэвіча.**

Праца **Сяргея Казака** адзначана Дыпломам трэцяй ступені. Удзельнічаў ён у намінацыі "Рабататэхніка, электроніка і аўтаматыка".

## Бібліятэка абяцае прыемнасці

**ВІЛЕЙКА.** Увечары 31 кастрычніка ў гарадской бібліятэцы №1 адбудзецца вечар бібліятэчных прыемнасцяў "Зазірніце да нас на агеньчык". Пачнецца ён у 17 гадзін.

Будуць працаваць бібліякафэ, салон кніжнай магіі і рэтра-выстава, паведаміла загадчыца гарадскога філіяла №1 Вілейскай раённай цэнтральнай бібліятэкі імя Ганны Новік **Галіна Ражко**. Пройдзе літаратурна-музычная сустрэча з чытачкай **Ірынай Сакалоўскай**, ушанаванне лепшых чытачоў і іншыя мерапрыемствы.

Знаходзіцца бібліятэка ў Палацы культуры.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## У Залессі плануюць міжнародны фестываль батлейкі

**СМАРГОНЬ.** 20 кастрычніка смаргонскі мясцовы дабрачынны фонд "Паўночныя Афіны Міхала Клеафаса Агінскага" правёў "круглы стол" "Роля мясцовай гісторыі, культуры і самабытнага батлеечнага мастацтва ў развіцці сельскай мясцовасці".

На ім абмеркавалі асаблівасці лялечных тэатраў, умовы іх развіцця і арганізацыю мясцовых, нацыянальных і міжнародных лялечных фестываляў. А таксама як зацікавіць вяскоўцаў да гэтай творчасці.

Артысты і іншыя работнікі батлейкі распавялі пра сваю работу, асаблівасці стварэння лялек.

**У сакавіку плануюць міжнародны фестываль батлейкі**

Арганізатары "круглага стала" прапанавалі правесці ў сакавіку ў Залессі Міжнародны фестываль батлеечных тэатраў. Прымеркаваць гэту падзею можна да Міжнароднага дня лялечных тэатраў.

**Паводле інфармацыі Галіны МАЦЮШЭНКІ, члена кіраўніцтва фонду "Паўночныя Афіны Міхала Клеафаса Агінскага.**




● НАШЫ ГРОШЫ

# Маладая мама: "Шэсць гадоў нашу дашлюбныя чаравікі"

**МАЛАДЗЕЧНА. Як маладая сям'я размяркоўвае сямейны бюджэт, на што траціць грошы і якім чынам плануе пабудаваць кватэру.**

Маладзечанка **Ганна Молаш** цяпер жыве ў Слоніме, працуе выхавальніцай у дзіцячым садку. Жанчына зацікавілася, за які час маладая сям'я зможа назбіраць на аднапакаёвую кватэру. Палічым разам, прапанавала яна.

**Абавязковая аплата рахункаў штомесяц: За дзіцячы садок разам з гурткамі Ганна аддае 600 тысяч рублёў. 700 тысяч зацягвае аплата кватэры ў Слоніме, 300 тысяч камунальныя плацяжы. У суме атрымалі 1 мільён 600 тысяч рублёў.**

Сапраўды, настаўніца можа назбіраць на аднапакаёўку за пяць з палавай гадоў, калі ўвесь заробак адкладаць на кватэру. Атрымліваецца, што муж павінен зарабляць на яе і на сябе. Куплянне кватэры прыпыніцца, калі народзяцца дзеці.

### Ад заробку адразу адкладаюць на кватэру

Ганна ўвесь свой заробак адкладае на кватэру.

Зарплата яе мужа – чатыры мільёны рублёў. Ён працуе ваенным доктарам. На жыццё маладой сям'і з трохгадовай дачкой застаюцца 2 мільёны 400 тысяч рублёў.

Мужчыну даплачваюць за найманне жылля прыблізна 550 тысяч рублёў. Аднак гэтыя грошы сям'я таксама адразу адкладае на жыллё на наступны месяц, а часам і на два наперад.

Жанчына дадае:

– Каб пабудаваць кватэру, трэба спачатку назбіраць 30% яе цаны. А ўжо пасля думаць пра будаўніцтва.

Напрыканцы размовы Ганна адзначыла, што многія скептыкі могуць заўважыць, што з такім заробкам мужа можна добра жыць:

– Але ў кожнага сваё бачанне "добра". Я, напрыклад, шэсць гадоў нашу дашлюбныя чаравікі.

Нягледзячы на ўсе цяжкасці, Ганна глядзіць у будучыню пазітыўна:

– Бывае цяжка, аднак што зробіш! Мне з мужам ёсць для каго жыць і старацца – для нашай дачушкі Верачкі. Калі разам пераадольваеш цяжкасці, сям'я становіцца мацнейшай. А сумесныя дасягненні прыносяць больш радасці і шчасця.

А як вы размяркоўваеце свой сямейны бюджэт? Падзяліцеся досведам поспеху з чытачамі "РГ". Альбо вашымі складанасцямі – мы паспрабуем знайсці іх вырашэнне.

**Галіна СІНІЦА.**

● РЫБАЛОЎСТВА

## Трое чалавек злавілі за браканьерства на возеры Свір

**МЯДЗЕЛ. Агульная сума іх шкоды прыродзе – каля 20 мільёнаў рублёў.**

Днём 7 кастрычніка работнікі Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету на возеры Свір, паблізу вусця ракі Смолка, затрымалі жыхара Вілейскага раёна.

Забароненай прыладай рыбалоўства, сеткай, ён незаконна злавіў дзевяць сазанаў. Агульная вага рыбы восем кілаграмаў. Парушальнік прычыніў шкоду навакольнаму асяроддзю на суму больш за восем мільёнаў рублёў.

Наступнае здарэнне адбылося праз дзень зноў на возеры Свір, непадалёк ад рэчкі Вялікі Перакоп. Работнікі ўпраўлення аператыўнага рэагавання Дзяржінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету затрымалі двух чалавек. Жыхары Мядзельскага і Вілейскага раёнаў рыбалоўнай сеткай незаконна злавілі 11 краснапёрак, шэсць шчупакоў, пяць лінёў і іншую рыбу.

Яны прычынілі шкоду навакольнаму асяроддзю на суму больш за 11 мільёнаў рублёў.

Па абодвух фактах супрацоўнікі Мядзельскага райаддзела Следчага камітэта Беларусі ўзбудзілі крымінальныя справы.

**Валянцін ГАЛУБОВІЧ, намеснік начальніка Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.**

● НАШЫ ГРОШЫ

## Памылка "РГ": мы жывём у 12 разоў лепей, чым напісалі

**МАЛАДЗЕЧНА. У артыкуле "Каб купіць кватэру, настаўніцы трэба не есці 68 гадоў" у мінулым нумары мы лічылі, за які час прадстаўнікі розных прафесій змогуць сабраць грошы на ўласную кватэру.**

Карэспандэнтка дапусціла памылку, якую іншыя не заўважылі.

На самой справе настаўніцы, каб набыць кватэру за 28 тысяч долараў, трэба не есці не 68 гадоў, а 68 месяцаў, альбо 5 з паловай гадоў.

Будаўніку, адпаведна, 35 месяцаў, альбо 2 гады і 8 месяцаў. А праграміст назбірае ўвогуле за 1,5 года. Калі цэны на жыллё і зарплаты будуць стаяць на месцы.

Мы просім прабачэння ў чытачоў і раім усміхнуцца. Жыццё не настолькі цяжкае, як нам часам здаецца.

Самым пільным чытачом аказаўся **Арцемій Казлоўскі**. Мы яму дзякуем і запрашаем да нас у рэдакцыю! Арцемія чакае прыз за ўважлівасць. Ён убачыў памылку і пералічыў, за які час можна купіць кватэру ў Маладзечне.

**Рэдакцыя "РГ".**

| Курсы валют НБ РБ | 23.10 руб. | 30.10 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 10 680,00 | **10 710,00** |
| Еўра | 13 580,00 | **13 650,00** |
| Злоты | 3 212,03 | **3 232,43** |
| Літ | 3 926,11 | **3 949,84** |
| Расійскі рубель | 260,50 | **251,50** |
| Грыўня | 821,54 | **827,03** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| Еўра | 13550/13700 | **13550/13700** |
| Долар ЗША | 10680/10800 | **10710/10780** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 22.10 | 29.10 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 139900 | **139900** |
| Сасіскі, 1 кг | 51700 | **53700** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 28900 | **28900** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 29500 | **29500** |
| Селядзец, 1 кг | 32800 | **32800** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 95000 | **95000** |
| Рыс, 0,9 кг | 14000 | **14000** |
| Грэчка, 0,9 кг | 8500 | **8500** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 14000 | **14000** |
| Алей "Масловія" | 14300 | **14300** |
| Маянэз, 200 г | 6850 | **6850** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 9800 | **11700** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 32000 | **32000** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 10000 | **10700** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 4900 | **4900** |
| Капуста, 1 кг | 2000 | **2500** |
| Морква, 1 кг | 4500 | **4500** |
| Буракі, 1 кг | 5000 | **5000** |
| Лімоны, 1 кг | 23500 | **23500** |
| Апельсіны, 1 кг | 16500 | **15900** |
| Мандарыны, 1 кг | 27000 | **23500** |
| Памідоры, 1 кг | 19000 | **21700** |
| Агуркі, 1 кг | 23900 | **23900** |
| Перац, 1 кг | 17000 | **22900** |
| Кавун, 1 кг | 6500 | **6000** |
| Дыня, 1 кг | 14000 | **17000** |
| Вінаград, 1 кг | 16000 | **18500** |
| Бананы, 1 кг | 14500 | **14500** |
| Хурма, 1 кг | - | **23500** |
| Яблыкі, 1 кг | 6500 | **7500** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 18000 | **14900** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 15000 | **15000** |
| Масла, 1 кг | 90000 | **90000** |
| Тварог, 1 кг | 50000 | **50000** |
| Бульба, 1 кг | 4000 | **4000** |
| Сала, 1 кг | 100000 | **100000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 20000 | **20000** |
| Мёд, 0,5 л | 50000 | **50000** |

● НАШЫ ГРОШЫ

## Сярэдні заробак у верасні зноў трохі знізіўся

**Намінальны налічаны сярэдні заробак у студзені-верасні 2014 склаў 5 мільёнаў 969 тысяч рублёў.**

У верасні сярэдні заробак быў 6 мільёнаў 335 тысяч рублёў.

Ён зменшыўся ў параўнанні са жніўнем на 0,5% (на 29,2 тысячы рублёў). Аб гэтым паведамілі Белта ў Нацыянальным статыстычным камітэце.

Рэальны заробак разлічаны з улікам росту спажывецкіх цэн на тавары і паслугі. Сёлета ў студзені-верасні ў параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года ён павялічыўся на 0,8%, а ў верасні ў параўнанні са жніўнем 2014 года зменшыўся на 1,7%.

**Паводле "Нашай Нівы".**

● КРАДЗЕЖ

# Выбіў акно сякерай, каб скрасці стары магнітафон

## Дэжавю па-валожынску: як зладзеі вяртаюцца да злачынстваў

**ВАЛОЖЫН. Адразу ў двух вёсках Валожынскага раёна зламыснікі пакваpіліся на прадукты, адзенне і старую тэхніку.**

Першы выпадак здарыўся ў вёсцы Палікшты Ракаўскага сельсавета 24 верасня.

Адседзеўшы за крадзеж з лецішча ў гэтай жа вёсцы, 43-гадовы мужчына вярнуўся сюды "на справу" зноў, толькі да іншых гаспадароў.

Як і ў мінулы раз, выбіў акно сякерай, трапіў у дом. Адтуль скраў прадукты харчавання, касетны магнітафон і абразы.

Цяпер яму пагражае да чатырох гадоў зняволення.

17 кастрычніка падобнае здарэнне адбылося ў вёсцы Даманоўшчына.

52-гадовая жыхарка вёскі Камень адбыла пакаранне за тое, што была п'яная ў грамадскім месцы. Яе толькі выпусцілі з ізалятара часовага ўтрымання, і ў гэты ж дзень у вёсцы Даманоўшчына з аднаго дома яна скрала адзенне і прадукты.

Ёй таксама пагражае тэрмін зняволення да чатырох гадоў.

Пра здарэнні "Рэгіянальнай газеце" паведаміла следчая Валожынскага Следчага камітэта **Дар'я Мікуліч**.

**Наталля ТУР.**




43-гадовы мужчына вярнуўся праз год у тую ж вёску, дзе раней скраў падобныя рэчы. Выбіў шыбу сякерай і забраў прадукты, касетны магнітафон і абразы.

● СЛУЖБА 101

### Муж і жонка згарэлі ў Алёхнавічах

**МАЛАДЗЕЧНА.** Апоўдні ў панядзелак, 27 кастрычніка, выратавальнікам патэлефанавала жанчына. Яна паведаміла, што ў аграгарадку Алёхнавічы па вуліцы Вакзальнай гарыць дом.

На месцы пажару выратавальнікі знайшлі трупы 57-гадовай жанчыны і яе 54-гадовага мужа.

Агнём пашкоджаны дах, дом выгараў знутры. Прычыну пажару высвятляюць.

**Паводле інфармацыі Кацярыны КРАЎЧОНАК, спецыяліста групы прапаганды і навучання інспекцыі нагляду і прафілактыкі Маладзечанскага ГРАНС.**

### Непатушаная цыгарэта стала прычынай трагедыі ў Рагазах

**МАЛАДЗЕЧНА.** Здарэнне адбылося 26 кастрычніка каля дзвюх гадзін ночы.

Пасля таго як выратавальнікі патушылі пажар у жылым доме на вуліцы Лугавой, у адным з пакояў каля ложка знайшлі труп 52-гадовага гаспадара дома.

Мужчына нідзе не працаваў, жыў адзін, злоўжываў спіртнымі напоямі, вёў асацыяльны лад жыцця.

У выніку пажару згарэў пакой, у доме закураныя сцены, знішчанае перакрыцце дома. Папярэдняя прычына здарэння – курэнне загінулага.

**Яўген БЕРКУТАЎ, начальнік штаба Маладзечанскага РАУС**

### На Вілейшчыне згарэла лецішча

**ВІЛЕЙКА.** Пажар адбыўся удзень 22 кастрычніка ў вёсцы Барсукі Ільянскага сельсавета.

У доме была маці гаспадара лецішча. Яна і заўважыла, што з пададдашку ідзе дым, і выбегла на вуліцу.

На тушэнне накіраваліся чатыры пажарнавыратавальныя аўтамабілі. Па прыбыцці на месца першага падраздзялення драўляны дом гаразу адкрытым полымем, агонь ужо знішчыў дах.

У выніку дом выгараў з сярэдзіны, ад яго засталіся толькі сцены, расказаў інжынер інспекцыі нагляду і прафілактыкі райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Яўген Камароў**.

Прычыну пажару ўстанаўліваюць.

### Гаспадар паспеў выйсці з дома, які гарэў

**МЯДЗЕЛ.** Ноччу 23 кастрычніка мядзельскім выратавальнікам паступіла паведамленне пра пажар. Гарэў дом у вёсцы Старынкі-2 Сваткаўскага сельсавета.

У доме жыў 44-гадовы мужчына. Ён заўважыў загаранне і выйшаў на двор.

Па прыбыцці выратавальнікаў дом ужо быў ахоплены полымем, распавёў інспектар інспекцыі нагляду і прафілактыкі райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Ігар Балаш**. Дом згарэў.

Папярэдняя прычына пажару – неасцярожнае абыходжанне з агнём пры курэнні.

**Аддзел інфармацыі.**

● СЛЕДЧЫ КАМІТЭТ ПАВЕДАМЛЯЕ

### Шукаюць адавочцаў аварыі на вуліцах Драздовіча-Маякоўскага

**МАЛАДЗЕЧНА.** Аварыя адбылася каля 7:30 у пятніцу, 10 кастрычніка.

Універсал цёмна-чырвонага перламутру "Субару-Форыстар", які рухаўся па галоўнай вуліцы Драздовіча ў накірунку Маркава, сутыкнуўся з седанам чырвонага колеру "Нісан-Прымера".

Вадзіцель "Нісана" атрымаў цяжкія цялесныя пашкоджанні.

Следчы камітэт просіць адавочцаў здарэння патэлефанаваць па нумары **8 (0176) 770469** альбо звярнуцца ў кабінет 211 Маладзечанскага Следчага камітэта па адрасе: *горад Маладзечна, вуліца Прытыцкага, 23.*

**Паводле інфармацыі Пятра ВАРАЧКОВА, намесніка начальніка першага аддзялення Следчага камітэта.**

● КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ

### Прызнаўся міліцыі, што забіў сабутэльніка

**АСТРАВЕЦ.** З яўкай з павіннай звярнуўся ў райаддзел міліцыі 26-гадовы жыхар пасёлка вечарам у панядзелак, 27 кастрычніка.

Пра гэта паведамляе прэс-служба Міністэрства ўнутраных спраў.

Забойства адбылося днём у нядзелю, 26 кастрычніка, у доме стрыечнага брата маладзёна.

Як сам паведаміў, ён піў разам са знаёмым, 45-гадовым жыхаром вёскі Ваверaны.

Малады жыхар Гудагая распавёў міліцыі, што падчас спрэчкі ён забіў мужчыну драўлянай палкай.

Пасля забойства мерканы забойца занёс труп у гаспадарчую пабудову, каб схаваць злачынства.

Цела загінулага знайшлі ў тым месцы. Падазронага затрымалі.

Узбудзілі крымінальную справу па артыкуле "Забойства".

**Сяргей ЗЯНЬКО, "Чалавек і закон".**

### 25-гадовы кіроўца загінуў у аварыі

**МАЛАДЗЕЧНА.** Здарэнне адбылося ноччу ў суботу, 25 кастрычніка, паблізу вёскі Шыпулічы Маладзечанскага раёна.

Непрацуючы жыхар вёскі Каледзіна, які не меў пасведчання кіроўцы (пазбаўлены правоў да 2016 года), кіраваў аўтамашынай БМВ з летнімі шынамі.

На закругленні дарогі ўлева не справіўся з кіраваннем, выехаў на правую па ходзе руху абочыну, дзе перакуліўся і загінуў.

**Яўген БЕРКУТАЎ, начальнік штаба Маладзечанскага РАУС.**

### Нецвярозы кіроўца накінуўся на міліцыянера

**ВІЛЕЙКА.** Крымінальную справу ўзбудзілі 27 кастрычніка.

Супрацоўнік ДАІ разам з участковым інспектарам ладзілі рэйд па сельскай мясцовасці. Яны спынілі мужчыну, які відавочна ў нецвярозым стане кіраваў аўтамабілем.

Пачалі праводзіць праверку на месцы, але кіроўца не быў гатовы да такога раскладу і выраішыў адбівацца ды спрабаваць збегчы.

Ён пусціў у ход кулакі, колькі разоў ударыў супрацоўніка ДАІ, але ўцячы не ўдалося. Яго затрымалі і склалі пратакол.

**Андрэй ДУДАРЧЫК, намеснік начальніка РАУС, начальнік міліцыі грамадскай бяспекі.**

### Выламаў замок, каб скрасці два яйкі

**ВІЛЕЙКА.** 21 і 22 кастрычніка ў дом пенсіянеркі з Вілейкі двойчы прабраўся раней судзімы жыхар Радашкавічаў.

39-гадовы мужчына раней не раз быў судзімы якраз за падобныя злачынствы. Ён прыехаў у Вілейку праходзіць медагляд, каб уладкавацца на работу.

Захацеў есці і, выламаўшы замок у дзвярах аднаго з дамоў, скраў у гаспадыні-пенсіянеркі кілаграм курыных спінак на 16 тысяч рублёў.

Назаўтра вярнуўся і скраў два курыныя яйкі на 3 тысячы рублёў.

Пра гэта "Рэгіянальнай газеце" паведаміў начальнік аддзела крымінальнага вышуку Вілейскага РАУС **Дзмітры Антановіч.**

**Наталля ТУР.**

● ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

### Ідзе акцыя "Пешаход"

**МАЛАДЗЕЧНА.** Яна праводзіцца ад 29 кастрычніка да 2 лістапада. У гэты перыяд міліцыя будзе кантраляваць пешаходныя пераходы, на якіх інтэнсіўны рух.

Будуць звяртаць асаблівую ўвагу на наступныя правапарушэнні:

- ненаданне перавагі пешаходам,
- грубейшае парушэнне правілаў дарожнага руху,
- дзеянні, праз якія адбылася аварыя.

Парушальнікаў чакаюць максімальна строгія меры адміністрацыйнага ўздзеяння, да пазбаўлення правоў кіроўцы.

Парушэнні будуць дакументаваць з фота- і відэафіксацыяй.

**Уладзімір ВАСІЛЬКОЎ, намеснік начальніка Маладзечанскага РАУС па ідэалагічнай рабоце і кадравым забеспячэнні.**

● ЗАХАПЛЕННІ

# Настаўніца біялогіі, па якой сумуюць кветкі

**МАЛАДЗЕЧНА. Вырошчваць на працоўным месцы каву і гадаваць мадагаскарскіх прусакоў? Чаму б не, калі за справу бярэцца чалавек, у якога ў руках гарыць любая справа.**

**Галіна Ахрэм** – настаўніца хіміі і біялогіі ў інтэрнаце №2 для дзяцей з парушэннямі зроку.

Акрамя ўрокаў, Галіна Вацлаваўна разам са сваёй памочніцай лабаранткай **Ганнай Лескец** даглядае за кветкамі, што ўпрыгожваюць як калідоры інтэрната, так і школьную тэрыторыю.

– Кожны дзень я спяшаюся на работу, таму што тут маё хобі, – гаворыць Галіна Ахрэм і адчыняе дзверы ў зімовы сад. – Тут, у жывым куточку, пасяліліся трус, марская свінка Дуся, мадагаскарскія прусакі, чарапашкі і два неразлучныя папугаі-прыгажуны.

Гадаванцы жывога куточка дапамагаюць дзеткам са слабым зрокам пазнаваць навакольны свет.

Бывае, цяжка на словах патлумачыць дзеткам, хто такая марская свінка і чаму некаторыя чарапашкі кусаюцца. А тут можна самім пагладзіць жывёлу ці пагладзець на чырванавухую чарапашку, якая марудна плавае ў акварыуме.

А яшчэ ў зімовым садзе Галіна Ахрэм вырошчвае экзатычныя расліны: інжыр, лімоны і… каву.

**– А каву ўжо пілі, якую вырасцілі на ўласнай плантацыі?** – пытаюся ў гаспадыні аранжарэі.

– Пакуль не, але гады праз тры пачастую.

Калі вы думаеце, што сезон кветак пачынаецца вясной і заканчваецца з надыходам восені, то Галіна Ахрэм пераканала б вас у адваротным.

Да самых маразоў Галіна Ахрэм збірае насенне, накрывае кветкі, каб не змерзлі. Пасля гэтага адразу трэба думаць пра тое, якое насенне вырошчваць на наступны год.

Пачынаючы з лютага падваконні кабінета біялогіі ператвараюцца ў клумбы. Расаду ўсіх кветак настаўніца і лабарант вырошчваюць самі.

Герань, львіны зеў, астры, геленіум, ачыткі, дэкаратыўная капуста, каны, розныя духмяныя травы – больш за 30 відаў раслін вырошчваюць Галіна Ахрэм і Ганна Лескец на клумбах інтэрната.

Жанчыны і ў адпачынак імкнуцца хадзіць у розны час, каб не пакідаць надоўга сваю гаспадарку. А калі раптам давodзіцца адсутнічаць удзвюх, то пасля вяртання заўсёды чуюць ад калег, што без іх кветкі сумавалі.

– І праўда, – прызнаецца Галіна Ахрэм, – я і сама заўважаю, як пасля расстання кветкі быццам паднімаюць галовы. Становяцца больш зялёнымі і здаровымі. Адчуваюць, што вярнуўся чалавек, які з імі размаўляе і любіць іх.

**Наталля ТУР.**



Фота Наталлі ТУР.

Галіна Ахрэм кожную раніцу пачынае з пажадання добрага дня сваім гадаванцам. І не важна, хто гэта: прусакі, марская свінка ці лімоннае дрэўца. Пяшчотнае слова прыемна чуць усім.

## Каліна – расліна вернасці і нераздзеленага кахання

Падчас шпацыру па школьным садзе я запыталася ў сваёй суразмоўцы, ці ёсць у яе любімая кветка або расліна. Галіна Ахрэм адказала, што гэта каліна, і расказала прыгожую легенду.

Калісьці адна дзяўчына моцна закахалася ў хлопца. Ён быў прыгожы, дужы, разумны. Але не звяртаў на яе ніякай увагі.

Доўга дабівалася ад яго дзяўчына ўзаемнасці. Хадзіла за ім па слядах, сумавала па ім, даравала няўвагу. І чакала, чакала, чакала.

У адзін дзень, калі чакаць надакучыла, дзяўчына ператварылася ў каліну. Ад таго, што яна так і не дачакалася ўзаемнасці ад свайго каханага, ягады каліны сталі горкімі – як нераздзеленае каханне.

А костачка ў каліны не проста так мае форму сэрцайка. Гэта напамін усім, што каханне бывае не толькі шчаслівым.

● ЭКАЛОГІЯ

## Вы можаце дапамагчы захаваць ласасёвых у Беларусі

**АСТРАВЕЦ. Захаваць ад браканьерства рэдкіх для нашага краю рыб у час нерасту вы можаце, калі далучыцеся да патрулявання некаторых рэк.**

Грамадская арганізацыя "Ахова птушак Бацькаўшчыны" запрашае далучыцца неабыякавых валанцёраў да акцыі, якая пачалася 22 кастрычніка і будзе доўжыцца да 15 снежня.

Ласасёвыя кумжы і сёмга прыплываюць у рэкі Астравеччыны з Балтыйскага мора на нераст. Толькі некалькі дзясяткаў рыб пераадольваюць 500 кіламетраў, каб працягнуць свой род тут, у Беларусі.

А галоўная перашкода для іх – чалавек. Тое, што браканьеры здабываюць унікальных рыб, пагражае іх захаванню ў нашай краіне.

Таму так неабходныя валанцёры, якія дапамогуць рыбе атрымаць шанец на паспяховы нераст.

Падчас дзяжурства валанцёры начуюць у палатках з печкай. Арганізатары раяць ехаць мінімум на два-тры дні.

Штогод на кожнага валанцёра прыходзіцца мінімум адна кумжа, якая паспяхова зробіць нераст.

Ахвотныя могуць звязацца з каардынатарам **Анатолем Лоўкісам** па тэлефонах: **(8-029) 881-20-13, (8-029) 927-71-95.**

**Паводле афіцыйнага паведамлення "Аховы птушак Бацькаўшчыны".**



Фота Мазся КУЛЯША

Карціны Эдуарда Мацюшонка, звязаныя з продкамі і Радзімай, прыцягнулі на выставу багата наведнікаў.

ІМПРЭЗЫ

# На адкрыцці выставы памяці продкаў людзі не маглі стрымаць слёз

**ВІЛЕЙКА. Незвычайна цёпла, незвычайна кранальна. Так праходзіла адкрыццё выставы "Дзяды" вілейскага мастака Эдуарда Мацюшонка. Ды і людзей 24 кастрычніка ў зале выставаў імя Сіліванавіча сабралася вельмі шмат.**

– Задума такой выставы з'явілася даўно, – кажа мастак. – Хацелася, каб яна дапамагала чалавеку адчуць, што ён мае род. І той ідзе ад яго ўглыб, і цераз яго будзе існі далей.

Каб у чалавека з'явілася пачуццё, што вось гэта яго зямля, тут яго карані. І ён павінны шанаваць сваіх бацькоў і месца, дзе нарадзіўся. Тое, што ўклалі ў яго бацькі, гэту духоўную праграму, ён мусіць развіваць і перадаваць сваім дзецям.

### Напісаў карціну на палатне, што ткала цётка

Аўтар выставіў карціны, звязаныя з продкамі, Радзімай. Выставу ж невыпадкова прымеркавалі да свята памінання продкаў.

Цэнтральны твор выставы – карціна "Каўчэг". Пра яе аўтар, здаецца, можа расказваць бясконца.

Праца напісаная на палатне, якое мастаку падарыла яго цётка Гелена. Яна сама сеяла лён, сама ткала.

– Калі ў мяне ў руках было тое палатно, адчуваў, што яно нейкае цёплае, таму што мае дачыненне да майго роду, – дзяліцца Эдуард Мацюшонак. – А раму рабіў з дошак з хаты, дзе жыла цётка Гелена.

На карціне – звычайная вясковая хата. Адразу прыцягваюць увагу дзве постаці.

– Чаму ў іх няма тварыў? – перапытвае мастак. – Бо калі доўга глядзіш на іх, раптам з'яўляецца ўяўленне, што на карціне людзі з тваіго роду. На ёй усё рэчы зробленыя рукамі – лава, дыванок, вышыванкі... Так і хацеў, бы ў каўчэгу, сабралася ўсё тое, што з'яўляецца для мяне важным у духоўным сэнсе.

А вакол "Каўчэга" размешчаныя невялікія працы. На іх рэчы, якія былі ў хаце цёткі Гелены: грамнічная свечка, ключ, прас, гадзіннік. А адно палатно пустое. Здагадаліся, для чаго? Па задуме мастака, калі чалавек будзе стаяць, глядзець, то ў яго памяці ўзнікнуць рэчы з матулінай ці бабулінай хаты.

### Перфоманс, які адкрывае душу

Мастак яшчэ стварыў такую кампазіцыю. На падлозе – куфар. Ад яго аж да столі падымаецца саматканае палатно (таксама ад цёткі Гелены). На гэтым палатне – фотаздымкі, з якіх глядзяць сваякі і знаёмыя, якія адышлі ў нябыт.

Палатно разгортваецца аж да столі і заканчваецца вялікай карцінай з рамонкамі, што плывуць па небе.

– А на нітачках вісяць ці то матылькі, ці то анёлы. Як свечкі знізу гараць, падымаецца цёплае паветра, і пачынаецца рух. Такое адчуванне, што гэта анёлы, якія глядзяць на нас, альбо душы тых людзей, якія адышлі ў нябыт.

Наведнікам выставы Эдуард Мацюшонак прапанаваў паўдзельнічаць у перфомансе: падумаць пра сваіх продкаў, запаліць у іх памяць свечку і паставіць яе да кампазіцыі. Проста памаўчаць, ці праспяваць, ці сказаць усё тое, што на душы ляжыць добрага.

Людзі пачалі дзяліцца роздумамі пра продкаў, чытаць вершы, спяваць. Гучалі песні – пранізлівыя, глыбокія.

– Прыемна, што многа людзей спявала, – кажа творца. – Адна жанчына казала: "Пачала спяваць вельмі жаласную песню – ад маці яе чула. Мяне слёзы душаць, і ў людзей наўкола таксама слёзы на вачах". Для мяне слёзы на вачах у такі момант – значыць, проста адкрываецца душа.

### Пасля выставы задумаліся пра сваіх продкаў

Прыйшлі павіншаваць мастака з адкрыццём выставы не толькі віляйчане. Прыехалі людзі з Глыбокага (мастак родам з Глыбоччыны), Астравеччыны, Маладзечна, Пастаў, Мінска. І гаварылі не толькі звыклыя для падобных імпрэз словы ўдзячнасці, а і пра сваіх продкаў. Гэтага, пэўна, і дабіваўся творца.

Потым наведнікі дзяліся ўражаннямі – у размовах, сацсетках. Пісалі, што "мерапрыемства прымусіла пра многае задумацца і многае зразумець. Вялікі дзякуй за такі цёплы вечар", "Вечар сапраўды быў узрушлівы".

Для мастака важным было тое, што людзі не проста паслухалі пра карціны, павіншавалі і разбегліся. А тое, што затрымаліся на выставе – некаторыя аж на чатыры гадзіны. Пачалі разважаць пра свой род, як яны ўдзячныя тым, хто даў ім жыццё. Як яны гэта памятаюць і хочуць усё гэта зберагчы і перадаць дзецям.

**А хто і шчыра прызнаваўся: Ведаеш, выстава мяне так расчуліла, што я абавязкова ў гэтыя выхадныя збіраю ўсю сваю сям'ю. Еду на вёску і буду паказваць дзецям і ўнукам, дзе ляжаць іх продкі.**

Алесь ВЫСОЦКІ.

---

*Аўтарская калонка*

*Настасся* РОЎДА



РЭЦЭНЗІІ

## Аўтар з Ашмянаў напісаў баявік пра моўны бізнес

**Беларусі няма. Гісторыі няма. Мовы няма. Хаця не, мова ёсць. Толькі цяпер яна – наркотык. Забаронены наркотык, за ўвоз і захоўванне якога прадугледжанае (уявіце сабе!) смяротнае пакаранне.**

Дзеянне рамана Віктара Марціновіча "Мова" разварочваецца ў Мінску. На кітайскім календары 4741 год. Чаму кітайскім? Мы з вамі акунуліся ў часы ўзвышэння Саюзнай дзяржавы Кітая і Расіі.

Рэлігія сёння – рэклама еўрапейскіх брэндаў, на якую можна маліцца. Пачуцці – да аднаго месца. Плакаць некультурна, няможна. Кахаць – пошла. У трэндзе халодны сэкс і абыякавасць адно да аднаго.

**З вокладкі кнігі: "Гэты раман – страшны сон пра будучыню, прадухіліць якую можна толькі ў лучнасці з тым скарбам, вакол якога і распачынаецца дзеянне гэтага лінгвістычнага баевіка".**

"Мы стасуемся толькі тады, калі нас нешта звязвае. І гэта – нармальна. Проста я – занадта сентыментальны", – гаворыць дылер Сярожа з блакітнымі вочкамі. Якія, на думку гаспадара, даюць права гандляваць наркотыкамі і перавозіць іх праз мяжу. Па яго філасофіі, толькі з-за інтэлектуальнага твару і гэтых вочкаў Дзяржнаркакантроль яшчэ не зрабіў з яго пакамечанае мяса.

У эпоху, калі з-за некалькіх радкоў мовы можна трапіць на дзесяць гадоў за краты, ён носіць у заплечніку друкаванку. Санеты Шэкспіра ў перакладзе Дубоўкі.

Кніга трапіла Сярожу выпадкова. Ім хацелі пакарыстацца, хацелі, каб ён проста правёз друкаванку праз мяжу. Пасля скарб планавалі забраць. Выкрасці, каб той нават і не ведаў, што ім пакарысталіся.

Не атрымалася. Як Сярожу шанцавала на мяжы, так пашанцавала і тут.

За ім пачынаюць сачыць, выклікаюць на размову. Сур'ёзныя людзі з Чайна-Таўна.

У Мінску, над Нямігай, кіламетр на кіламетр, шматпавярховы горад, збудаваны "са смецця" кітайцамі. У іх там свой моўны бізнес. Яны штодзень заганяюць наркаманам мову і маюць з гэтага шалёныя прыбыткі.

...

Кожная старонка трымае ў напружанні. Увесь час з'яўляюцца новыя дэталі, новыя падрабязнасці.

З кожным радком раман усё больш уцягвае ў сябе. Ты быццам вада, якую зацягвае ў вір. І калі спачатку яшчэ можна адарвацца, то пасля, як з тымі ж наркотыкамі, немагчыма.

**Кніга не адпускае. Гэтак жа, як і мова яе героя. Таму што блізка. Таму што пра набалелае. Таму што пра самае дарагое, што ў нас з вамі ёсць.**

Мова.

Сюжэт настолькі абсурдны, што ў пэўны час здаецца цалкам верагодным. Так бывае ў жыцці, калі самы немагчымы сцэнар раптам становіцца рэальнасцю.

Кітайцы з іх Чайнатаўнам, мова, што стала наркотыкам, друкаванка, за якую лічаныя беларусы, што не забыліся на тое, кім яны ёсць, гатовыя аддаць жыццё.

Пакуль што большасць з нас разумее мову. Але з кожным немаўлём мы ўсё далей і далей ад яе. І ніхто не скажа, як мова пачне на нас уздзейнічаць, калі мы забудземся на яе.

Які беларускамоўны не сутыкаўся з гэтай фразачкай "говорите со мной нормально", ад якой пачынае ванітаваць? Будучыня мовы залежыць толькі ад нас. Ад кожнага з нас.

Раман з'явіўся своечасова. Пакуль што мы можам выбіраць дарогу, па якой будзем крочыць.

Можа, вы і не ўбачыце таго шляху, на які мы ступаем. Можа, вы і не знойдзеце нічога ў гэтай кнізе. Можа, проста я занадта сентыментальная.

**Даведка "РГ". Віктар Марціновіч.** Нарадзіўся ў 1977 годзе ў Ашмянах. Напісаў тры кнігі, атрымаў беларускую літаратурную прэмію "Дэбют" і ўвайшоў у доўгі спіс расійскай "Нацбэст". Творы перакладаліся на нямецкую, англійскую, фінскую, шведскую і польскую мовы, былі станоўча адзначаныя ў рэцэнзіях у Publishers Weekly, Times Literary Supplement, New York Times Review of books.

● НАВІНЫ СПОРТА

## "Смаргонь" мінімальна саступіла лідару

**СМАРГОНЬ.** Футбольны клуб "Смаргонь" 25 кастрычніка гуляў у Мазыры. Сапернікам стала мясцовая "Славія", лідар чэмпіянату першай лігі.

"Славія" перамагла 1:0. Гол гаспадары забілі на 12-й хвіліне. Апошнія хвіліны матча "Славія" дагульвала ў меншасці. На 85-й выдалілі іх гульца.

Пасляматчавы каментар галоўнага трэнера "Смаргоні" **Паўла Бацюты** прыводзіць афіцыйны сайт клуба:

– Настройваліся на гульню з лідарам. Ведалі, як гуляе сапернік, іх пэўныя праблемы ў атацы ў сувязі з няўдзелам у гульні галоўнага бамбардзіра. Различвалі згуляць кампактна ў сярэдзіне поля і разганяць флангі, лавіць сапернікa на контратаках. Што тычыцца цэнтра поля, то гэты момант мы зрабілі. А што тычыцца завяршальнай стадыі, то тут былі праблемы. Адсюль і малая колькасць удараў па варотах. І ў нервовай канцоўцы сапернік выстаяў.

## "Маладзечна-ДЮСШ-4" прайграла і апусцілася на другое месца

**МАЛАДЗЕЧНА.** Паражэннем скончыўся суботні матч чэмпіянату вобласці па футболе для "Маладзечна-ДЮСШ-4". Маладзечанцы гулялі 25 кастрычніка ў гасцях з "Зоркай-РФАЦ-Вікторыя". І прайгралі 1:2. Адзіны гол у "Маладзечна-ДЮСШ-4" забіў **Павел Майсяёнак**.

На першае месца ў турнірнай табліцы падняўся ФК "Любань" – у каманды 27 ачкоў. "Любані" ў гэтым туры і гуляць не давялося: іх саперніку – ФК "Барысаў" – залічылі тэхнічнае паражэнне 0:3.

"Маладзечна-ДЮСШ-4" апусцілася на другое месца (25 ачкоў). Столькі ж мае і "Жодзіна-2007", якая ідзе трэцяй.

Вырашальным будзе матч у Маладзечне 1 лістапада. Сустрэнуцца два лідары – "Маладзечна-ДЮСШ-4" і "Любань".

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

● СТАРЫ АЛЬБОМ

# Эдуард Манкус пазнаў сябе на фота аварыі 1985 года

## "РГ" разам з маладзечанскай міліцыяй цягам тыдня шукала героя здымка праз інтэрнэт

**МАЛАДЗЕЧНА. Аварыя 1985 года. Машына ўехала ў раздзяляльны бардзюр на мосце ўздоўж вуліцы Савецкай (цяпер Віленскай) у бок вуліцы Валынца. Супрацоўнік ДАІ афармляе ДТЗ. Хто ён і дзе сёння, даведвалася "РГ".**



Фота Настассі РОЎДЫ.

Эдуард Манкус мяркуе, што на фота, змешчаным ніжэй, – ён. Усе прыкметы супадаюць.

Аднойчы адзін маладзечанец перадаў міліцыі плёнку са старымі здымкамі горада 60-х, 70-х гадоў мінулага стагоддзя. Фота праявілі і вырашылі зрабіць з іх калекцыю.

Падчас яе распрацоўкі начальнік штаба Маладзечанскага РАУС **Яўген Беркутаў** прапанаваў далучыць да яе і фота аварыі, якое даўно ляжала ў архіве.

– Заўважыў яго гадоў дзесяць таму. Фота аварыі, калісьці кімсьці зробленае, – распавядае міліцыянер. – Ужо ў той час яно было старым і ніхто не мог пра яго нічога сказаць. За гэты час паспелі змяніцца некалькі пакаленняў супрацоўнікаў.

Цяпер гэта калекцыя ўпрыгожвае сцены калідораў Маладзечанскага РАУС.

– Аднак фота ДТЗ дагэтуль непадпісанае. Тым часам як мае сацыяльнае і гістарычнае значэнне, – тлумачыць Яўген Беркутаў. – Нам проста цікава ведаць, што ж гэта за супрацоўнік. Каб ён застаўся ў гісторыі.

**У той жа дзень, як мы змясцілі фота на сайце газеты (rh.by), адзін з чытачоў напісаў імя і прозвішча супрацоўніка ДАІ на фота. Яшчэ праз колькі дзён адгукнуўся і сам Эдуард Манкус.**

У маі 1985 года яго прызначылі інспектарам дарожна-патрульнай службы ДАІ.

Службовы будынак месціўся тады па вуліцы Кірава (цяпер Грамадоўская). Побач стаяў стэнд "ДАІ інфармуе", дзе вывешвалі некаторыя здымкі. Фота аварыі, гісторыю якой цяпер захацела аднавіць маладзечанская міліцыя, таксама туды трапіла.

### У 80-х у Маладзечне быў круты мост

На згаданую аварыю выехалі намеснік начальніка ДАІ Маладзечанскага ГРАУС **Сяргей Рашатнёў** разам з Эдуардам Манкусам, які ў той час абслугоўваў два маршруты ў горадзе: праспект Леніна, цяпер Вялікі Гасцінец, і ад праспекта да завода парашковай металургіі.



Фота забяспечана Яўгенам БЕРКУТАВЫМ.

Выгляд з пуцеправода ўздоўж вуліцы Савецкай (цяпер Віленская) у бок вуліцы Валынца. Аварыя сярэдзіны 80-х гадоў.

На мосце, што на фота, кіроўцы часта ўязджалі ў раздзяляльны бардзюр.

– На той час мець такі мост было вельмі крута! – распавядае спадар Эдуард. – Ноччу ён нават міргаў. Не кожны мост у Мінску меў такое абсталяванне. Калі я толькі ўбачыў фота, вырашыў, што на ім Сяргей Рашатнёў. Пасля дзеці пагледзелі, сам колькі разоў аналізаваў і ўсё ж думаю, што гэта я.

На фота бачна, што мужчына высокага росту. Эдуард Манкус ростам 1,9 метра. У яго доўгія рукі, таму стандартная верхняя вопратка формы яму заўсёды была крыху караткаватая. Як і на фота, наш герой насіў гадзіннік на левай руцэ. Клаў папку гэтак жа, як і на фота, і ўнутр укладваў жэзл, каб можна было ў любы момант лёгка дастаць.

**Эдуард Манкус у сярэдзіне 80-х неаднаразова перамагаў у прафесійных конкурсах вобласці і рэспубліцы.**

У прафесію ён прыйшоў пасля арміі. Служыць яму давялося ў Рызе ў спецыяльных матарызаваных часцях міліцыі МУС СССР.

– У маладосці хацеў быць артыстам. Ігралі ў маладзечанскіх дварах на гітары. Песні раскладвалі на некалькі партый. Пасля двух гадоў патрульна-паставой службы вырашыў ісці ў міліцыю.

Старшы сын, **Алег**, пайшоў па слядах бацькі і скончыў Акадэмію МУС. Даслужыўся да капітана юстыцыі, быў следчым. Малодшы ж, **Артур**, працуе інжынерам відэамантажу. Жонка, **Ірына Сяргееўна**, – бухгалтарам.

### Як раўнівец уехаў у цягнік і забіў жонку

Самая буйная справа, якую Эдуард Манкус прыгадаў, здарылася напрыканцы 90-х гадоў.

Муж прыраўнаваў жонку. Яна збіралася ехаць на конкурс стылістаў. Ён пасадзіў яе ў машыну і паехаў пад цягнік. Яна загінула, а ён выжыў.

Яму далі каля 15 гадоў пазбаўлення волі.

– Цяжкая справа. Збіралі доказы па драбніцах. Ён хацеў, каб гэта засталося "няшчасным выпадкам", але віну даказалі. Гэтая гісторыя кранула за душу. Таму што ў яго былі дзве дачкі. Старэйшай на той момант было 8 гадоў, а малодшай – два.

У архіве Эдуарда Манкуса ёсць некалькі здымкаў з часоў маладосці, якія распавядаюць пра яго прафесію. Яны былі надрукаваныя ў нямецкай газеце горада Эслінген. У бліжэйшым нумары чакайце гісторыю аднаго з іх.

**Настасся РОЎДА.**

**Даведка "РГ". Эдуард Манкус.** Родам з Маладзечна. У 1983 годзе працаваў кіроўцам у дзяжурнай часці Маладзечанскага ГРАУС і вучыўся ў БДУ імя Леніна (тагачасная назва) на юрыдычным факультэце. У 1985 яго прызначылі інспектарам дарожна-патрульнай службы ДАІ Маладзечанскага ГРАУС. Пасля працаваў следчым. Ад 1998 да 2001 года быў начальнікам Маладзечанскага аддзялення ўпраўлення Следчага камітэта на транспарце пры МУС Беларусі. Затым – старшым следчым па асабліва важных справах упраўлення СК пры МУС РБ на транспарце. У 2002 годзе пасля скарачэння пасады пайшоў на пенсію. Цяпер працуе выкладчыкам крымінальнага права і крымінальнага працэсу ў Маладзечанскім гандлёва-эканамічным каледжы.

● КАЛЯНДАР

**31 кастрычніка.** 80 гадоў з дня нараджэння (1934) Тадэвуша Кокштыса, беларускага акцёра, народнага артыста Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі. Нарадзіўся ў вёсцы Хоўхлава Маладзечанскага раёна.

***

**1 лістапада.** 105 гадоў (1909) з дня нараджэння Івана Касяка (в. Горы, цяпер Вілейскі р-н), грамадскага дзеяча, публіцыста, гісторыка, дзеяча эміграцыі ў Германіі і ЗША.

***

**30 гадоў** як памёр (1984) Пётра Сергіевіч, беларускі жывапісец і графік, мастак-манументаліст. Заслужаны дзеяч мастацтваў Літвы (1965).

***

**2 лістапада.** 105 гадоў з дня нараджэння Максіма Лужаніна (сапр. Каратай Аляксандр Амвросьевіч,1909 – 2001), беларускага паэта, празаіка, кінадраматурга, перакладчыка, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі, заслужанага дзеяча культуры Польшчы.

***

**75 гадоў** назад (1939) 5-я (нечарговая) сесія Вярхоўнага Савета СССР прыняла закон аб уключэнні Заходняй Беларусі ў склад СССР і ўз'яднанні яе з Беларускай ССР.

***

**3 лістапада.** 1882 год. Нарадзіўся Якуб Колас, народны пісьменнік Беларусі.

***

**1937 год.** На Салавецкіх астравах (Расія) расстраляны Флягонт Валынец, дзеяч заходнебеларускага нацыянальнага руху. Нарадзіўся ў 1879 годзе ў Вілейцы. Скончыў Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю. Настаўнічаў на Віленшчыне. За палітычную ненадзейнасць пасля рэвалюцыі 1905-07 года пазбаўлены права выкладаць. Ад лістапада 1917 – гарадскі галава Вілейкі, з лютага 1918 – старшыня гарсавета. У час нямецкай акупацыі абраны жыхарамі горада бургамістрам.

***

**4 лістапада.** 220 гадоў таму (1794) пры абароне Прагі (прадмесце Варшавы, Польшча) загінуў Якуб Ясінскі, вайсковы і палітычны дзеяч, інжынер, паэт, адзін з кіраўнікоў паўстання 1794 года. Вызначыўся ў бітвах з расійскімі войскамі пад вёскамі Паляны, Ліпнішкі, Солы. Пахаваны на касцёле "На Камёнку" ў Варшаве.

***

**5 лістапада.** 75 гадоў назад (1939) у Дзяржаўным тэатры оперы і балета Беларусі адбылася прэм'ера першага беларускага савецкага балета "Салавей" М.Я. Крошнера.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

# 25 сродкаў касметыкі, каб прыбрацца на адзін вечар

## Частка 1. Нябачная

**Перад тым, як наносіць касметыку, мыем твар:**

1. Пенка
2. Тонік
3. Увільгатняльны крэм
4. Крэм для павекаў
5. База пад цені
6. Бальзам для вуснаў

**Прэ-макіяж:**

7. База пад макіяж
8. Тлусты карэктар
9. Сухі карэктар
10. Танальны крэм

**Фініш:**

11. Пудра
12. Мігатлівая пудра
13. Хайлайтар

## Частка 2. Бачная

**Дэкаратыўная касметыка:**

1. Аловак альбо цені для броваў
2. Гель для броваў
3. Цені
4. Аловак для павекаў
5. Аловак-каял
6. Падводка
7. Туш
8. Пудра-бранзатар
9. Румяны
10. Аловак для вуснаў
11. Памада
12. Бляск для вуснаў

**Спіс можа мяняцца ў залежнасці ад асаблівасцяў скуры жанчыны, вобразу, які яна стварае**



**Аляксандр Васільеў:** гісторык моды, яго дзядуля родам з Маладзечна

**"Прыгожая жанчына – гэта разумны позірк"**



Інфографіка Настассі РОЎДЫ.

Выражы і захавай!

**Аўтар ідэі – Тамара Абрамовіч.**
**Мадэль – Юля Абрамовіч.**
**Інфаграфіка – Настасся Роўда.**
**Фота – Алесь Дзямідчык.**
**Макіяж – Зоя Хруцкая.**

# Расклад руху цягнікоў ад 26 кастрычніка 2014 года

## Цягнікі рэгіянальных ліній

| Маладзечна-Гудагай | | | | Гудагай-Маладзечна | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| № цягні-ка | Час ад-праў-лення | Час пры-быцця | Прыпынкі, дні курсіравання цягніка | № цяг-ніка | Час ад-праў-лення | Час пры-быцця | Прыпынкі, дні курсіравання цягніка |
| 7031 | **06:23** | 07:38 | Штодз. з прыпынкамі па станцыях і п.п. Маладзёжны | 6884 | **05:40** | 07:14 | Штодз. |
| 7033 | **07:38** | 09:08 | Штодз. Мінск-Гудагай, Мінск-Маладзечна з прыпынкамі Мінск-Паўночны, Ждановічы, далей Маладзечна-Гудагай б/п Гаўці, Скрэсціны, Каменка | 7032 | **07:57** | 09:11 | Штодз. Гудагай-Мінск Гудагай-Маладзечна з прыпынкамі па станцыях і п.п. Маладзёжны, далей Маладзечна-Мінск з прыпынкамі Ждановічы, Мінск-Паўночны |
| 6885 | **08:36** | 10:14 | Штодз. | 7034 | **09:36** | 10:50 | Штодз. з прыпынкамі па станцыях і п.п. Маладзёжны |
| 6887 | **12:20** | 13:16 | У рабочыя да Смаргоні | 6888 | **10:42** | 12:17 | Штодз. |
| 6971 | **13:40** | 15:16 | У выхадныя | 6890 | **13:49** | 14:41 | У рабочыя са Смаргоні |
| 6889 | **15:50** | 17:26 | Штодз. да Гудагая | 6972 | **15:36** | 17:17 | У выхадныя |
| 6891 | **17:53** | 19:32 | Штодз. | 6892 | **17:50** | 19:28 | Штодз. |
| 7035 | **19:20** | 20:42 | Штодз. з Мінска Мінск-Маладзечна з прыпынкамі Мінск-Паўночны, Ждановічы, далей Маладзечна-Гудагай з прыпынкамі па станцыях і п.п. Маладзёжны | 7036 | **20:34** | 21:51 | Штодз. Гудагай-Мінск Гудагай-Маладзечна з прыпынкамі па станцыях і п.п. Маладзёжны, Маладзечна-Мінск з прыпынкамі Ждановічы, Мінск-Паўночны |
| 6893 | **20:37** | 22:19 | Штодз. | 6894 | **21:28** | 23:04 | Штодз. |
| Маладзечна-Ліда | | | | Ліда-Маладзечна | | | |
| | | | | 6264 | **04:08** | 07:11 | Штодз. |
| 6263 | **08:38** | 11:37 | Штодз. | | | | |
| 6977 | **12:51** | 15:51 | У выхадныя | 6266 | **09:07** | 12:12 | Штодз. |
| | | | | 6978 | **12:19** | 15:19 | У выхадныя |
| 6265 | **18:21** | 21:20 | Штодз. | 6268 | **16:14** | 19:14 | Штодз. |
| 6267 | **20:32** | 23:30 | Штодз. | | | | |
| Маладзечна-Крулеўшчына-Полацк | | | | Крулеўшчына-Маладзечна | | | |
| | | | | 6623 | **04:42** | 07:01 | Штодз. адпраўленнем з Глыбокага ў 04:00 |
| 6628 | **08:54** | 11:05 | Штодз. | | | | |
| | | 13:05 | Прыбыццё ў Полацк | 6683 | **15:20** | 17:38 | У выхадныя |
| 6684 | **12:50** | 15:03 | У выхадныя да Крулеўшчыны | 6683 | **17:03** | 17:38 | У рабочыя з Вілейкі |
| 6634 | **16:14** | 16:40 | У рабочыя да Вілейкі | 6627 | **17:34** | 19:45 | Штодз. |
| 6632 | **20:13** | 22:27 | Штодз. | | | 15:37 | Адпраўленне з Полацка |
| | | 23:06 | Прыбыццё ў Глыбокае | | | | |

## Электрацягнікі

| Маладзечна-Мінск | | | | Мінск-Маладзечна | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| № цягні-ка | Час ад-праў-лення | Час пры-быцця | Прыпынкі, дні курсіравання цягніка | № цяг-ніка | Час ад-праў-лення | Час пры-быц-ця | Прыпынкі, дні курсіравання цягніка |
| 6102 | **04:14** | 05:59 | б/п Селівонаўка | 6101 | **00:30** | 02:10 | б/п Татаршчызна, Селівонаўка |
| 6104 | **05:09** | 06:57 | | 6103 | **04:42** | 06:14 | б/п Мінскае Мора, Крыжоўка, Зялёнае, Хмелеўка, Анусіна, Вязынка, Пралескі |
| 6108 | **05:48** | 07:35 | | 6105 | **05:18** | 07:01 | |
| 6110 | **06:42** | 08:32 | | 7033 | **06:10** | 07:28 | Мінск-Маладзечна з прыпынкамі Ждановічы, Мінск-Паўночны, далей д.п. да Гудагая, б/п Гаўці, Скрэсціны, Каменка |
| 6112 | **07:26** | 09:24 | | 6107 | **06:26** | 08:19 | |
| 6114 | **08:35** | 10:23 | | 6109 | **07:36** | 09:20 | |
| 7032 | **09:13** | 10:45 | Прыпынкі: Ждановічы, Мінск-Паўночны | 6111 | **08:56** | 10:43 | |
| 6116 | **09:55** | 11:50 | | 6113 | **09:52** | 11:38 | |
| 6118 | **11:06** | 12:56 | | 6115 | **10:49** | 12:45 | па выхадных |
| 6766 | **12:39** | 14:20 | Па выхадных б/п:Раманы, Хмелеўка, Зялёнае | 6119 | **11:40** | 13:24 | |
| | | | | 6121 | **12:48** | 14:35 | |
| 6120 | **13:12** | 14:59 | | | | | |
| 6122 | **14:56** | 16:39 | Да станцыі Мінск-Паўночны | 6123 | **14:50** | 16:35 | б/п Селівонаўка |
| 6124 | **15:46** | 17:33 | | 6125 | **15:35** | 17:21 | |
| 6126 | **16:59** | 18:54 | | 6127 | **16:19** | 18:11 | |
| 6128 | **18:01** | 19:49 | | 7035 | **17:55** | 19:18 | Ад Мінска да Маладзечна з прыпынкамі Ждановічы, Мінск-Паўночны, далей Маладзечна-Гудагай з прыпынкамі па станцыях і п.п. Маладзёжны |
| 6132 | **18:45** | 20:31 | | | | | |
| 6134 | **19:51** | 21:37 | б/п Селівонаўка | 6129 | **17:35** | 19:27 | |
| 6136 | **20:52** | 22:32 | б/п Вязынка, Анусіна | 6131 | **18:16** | 20:02 | б/п Крыжоўка, Мінскае Мора, Зялёнае |
| | | | | 6133 | **19:36** | 21:25 | б/п Крыжоўка, Мінскае Мора, Зялёнае |
| | | | | 6135 | **20:50** | 22:37 | |
| 7036 | **21:56** | 23:19 | Гудагай-Маладзечна з прыпынкамі па станцыях і п.п. Маладзёжны, далей Маладзечна-Мінск з прыпынкамі Ждановічы, Мінск-Паўночны | | | | |
| 6138 | **22:14** | 23:54 | б/п Раманы, Пралескі, Хмелеўка, Зялёнае, Крыжоўка | 6137 | **22:18** | 00:07 | б/п Мясата, Татаршчызна, Крыніца, Селівонаўка |

## Пасажырскія цягнікі

| № цягніка | Маршрут | Адпраўленне з пачатковай станцыі | Па станцыі Маладзечна | | | Прыбыццё на канцавую станц. | Дні курсіравання |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | прыбыццё | стаянка | адпраўленне | | |
| 29 | **Масква-Калінінград** | 14:19 | **1:30** | 3 | **1:33** | 11:09 | штодзённа |
| 633 | **Магілёў-Гродна** | 19:08 | **1:10** | 2 | **1:12** | 5:53 | няцотныя |
| 623 | **Віцебск-Гродна** | 18:50 | **1:10** | 2 | **1:12** | 5:53 | цотныя |
| 148 | **Калінінград-Масква** | 16:56 | **2:57** | 3 | **3:00** | 15:33 | па чыслах |
| 77 | **Масква-Гродна** | 15:53 | **3:40** | 8 | **3:48** | 8:29 | штодзённа |
| 360 | **Калінінград-Адлер** | 18:59 | **4:59** | 2 | **5:01** | 8:14 | серада, субота |
| 626 | **Віцебск-Мінск** | 21:42 | **4:03** | 43 | **4:46** | 6:28 | штодзённа |
| 5 | **Масква-Вільня** | 18:55 | **5:40** | 3 | **5:43** | 8:00 | штодзённа |
| 88 | **Рыга-Мінск** | 18:20 | **5:59** | 28 | **6:27** | 7:46 | штодзённа |
| 79 | **С.-Пецярбург-Калінінград** | 16:40 | **6:41** | 14 | **6:55** | 16:50 | пн, чц, сб |
| 425 | **Чэлябінск-Калінінград** | | | | | | |
| 147 | **Масква-Калінінград** | 20:35 | **8:47** | 5 | **8:52** | 19:40 | па чыслах |
| 804 | **Вільня-Мінск** | 7:00 | **9:28** | 2 | **9:30** | 10:30 | штодзённа |
| 805 | **Мінск-Вільня** | 0:40 | **9:38** | 2 | **9:40** | 10:10 | штодзённа |
| 693 | **Полацк-Мінск** | 7:20 | **9:58** | 34 | **10:32** | 11:35 | птн, ндз |
| 801 | **Мінск-Вільня** | 9:45 | **10:49** | 2 | **10:51** | 12:38 | сб, ндз |
| 630 | **Гродна-Мінск** | 6:26 | **10:22** | 2 | **10:24** | 11:28 | штодзённа |
| 803 | **Мінск-Вільня** | 11:10 | **12:07** | 2 | **12:09** | 12:57 | штодзённа |
| 808 | **Вільня-Мінск** | 14:58 | **17:46** | 2 | **17:48** | 18:45 | штодзённа |
| 629 | **Мінск-Гродна** | 16:56 | **17:59** | 2 | **18:01** | 21:58 | штодзённа |
| 693 | **Мінск-Полацк** | 17:12 | **18:20** | 25 | **18:45** | 22:30 | птн, ндз |
| 80 | **Калінінград-С.-Пецярбург** | 10:18 | **20:23** | 13 | **20:36** | 11:07 | аўт, чц, сб |
| 806 | **Вільня-Мінск** | 18:14 | **20:42** | 2 | **20:44** | 21:44 | штодзённа |
| 807 | **Мінск-Вільня** | 19:50 | **20:50** | 2 | **20:52** | 21:20 | штодзённа |
| 6 | **Вільня-Масква** | 16:55 | **21:34** | 3 | **21:37** | 9:01 | штодзённа |
| 634 | **Гродна-Магілёў** | 15:53 | **21:20** | 6 | **21:26** | 5:26 | няцотныя |
| 624 | **Гродна-Віцебск** | 15:53 | **21:20** | 6 | **21:26** | 4:50 | цотныя |
| 625 | **Мінск-Віцебск** | 20:43 | **22:12** | 30 | **22:42** | 6:06 | штодзённа |
| 359 | **Адлер-Калінінград** | 20:53 | **22:48** | 3 | **22:51** | 9:02 | ср, ндз |
| 78 | **Гродна-Масква** | 16:53 | **21:44** | 4 | **21:48** | 9:37 | штодзённа |
| 30 | **Калінінград-Масква** | 13:44 | **23:12** | 3 | **23:15** | 9:27 | штодзённа |
| 87 | **Мінск-Рыга** | 22:35 | **23:45** | 29 | **00:14** | 9:30 | штодзённа |
| 802 | **Вільня-Мінск** | 20:07 | **23:51** | 2 | **23:53** | 0:54 | сб, ндз |

## Цягнікі рэгіянальных ліній бізнес-класа

| № цягніка | Маршрут следавання | Адпраўленне | Прыбыццё | Дні курсіравання |
|---|---|---|---|---|
| 772 | Маладзечна-Мінск | **8:00** | 8:55 | штодзённа |
| 774 | Маладзечна-Мінск | **20:25** | 21:20 | нядзеля |
| 771 | Мінск-Маладзечна | **6:47** | 7:42 | панядзелак |
| 773 | Мінск-Маладзечна | **18:55** | 19:50 | штодзённа |

Тэл. для даведак:
**(8-0176) 74-28-26.**

 



# Пяць баёў Кудзіна каштуюць як гадавы заробак астранаўта NASA

*Заканчэнне. Пачатак на 1-й старонцы.*

**– Адзінаборствы – гэта траўматычны від спорту?**

– Траўмы здараюцца. Часцей за ўсё гэта звязкі, траўмы калена. У мяне за два тыдні да бою здарылася абсалютна недарэчная траўма. На трэніроўцы, калі падымаўся з мата, сам зачапіўся галавой за самарэз, які быў укручаны ў сцяну. Як вынік – чатыры швы на галаве.

**– У штодзённым жыцці здаралася вырашаць пытанні сілай?**

– Не, максімум пальчыкам прыстрашыць. Я персона публічная, заслужаны майстар спорту Беларусі. Інструктар па спартыўных пытаннях у Міністэрстве спорту і турызму. Таму не магу сабе дазволіць без разбору махаць кулакамі.

**– А публічную персону на вуліцах пазнаюць?**

– У Маскве ці Піцеры немагчыма спакойна на спаборніцтвах знаходзіцца. Многа хто ведае, просяць аўтографы і сфатаграфавацца. У Сургуце, калі біўся апошні раз, давялося рабіць цэлую аўтографсесію. А ў Беларусі не. Амаль ніхто не ведае.

**– Чаму так?**

– Для Беларусі гэты спорт вельмі малады. Толькі гады 1,5 – 2 назад перастаў быць паўлегальным. Таму яшчэ ўсё наперадзе.

### Больш за ўсё чакаю рэваншу з Сяргеем Харытонавым

Аляксей Кудзін удзельнічае ў тэлевізійным шоу “М-1 FIGHTER” як трэнер. Здымкі праходзяць у санаторыі пад Дзяржынскам. Па задуме шоу, у ім удзельнічаюць байцы дзвюх камандаў – чырвонай і чорнай. Чырвоных трэніруе Аляксей, чорных – амерыканскі баец **Кені Гарнер.** Фінальны бой трэнераў адбудзецца на Мінск-арэне 22 лістапада.

Але больш за ўсё ён чакае бою-рэваншу з расійскім спартсменам **Сяргеем Харытонавым.** Нагадаем, што скандальны паядынак з удзелам гэтых байцоў адбыўся 16 лістапада 2013 года. Рэферы спыніў бой і зафіксаваў перамогу Харытонава, таму што ў Кудзіна выпала капа.

Аднак каманда беларускага байца падала пратэст на рашэнне суддзі. Па словах Аляксея, тады рэферы ўставіў капу няправільным бокам. Праз памылку суддзі бой быў несправядліва спынены. Ён павінны адбыцца ў пачатку наступнага года.

### На харчаванне выдаткоўваю 1000 долараў у месяц

Аляксей Кудзін наведаў каля 60 краін. Але жыве па-ранейшаму ў Маладзечне. Хаця прызнаецца, што ў планах збіраецца з’ехаць на нейкі тэрмін пажыць і патрэніравацца за мяжой. Хутчэй за ўсё, у нейкаю еўрапейскую краіну.

**Самы кароткі бой Аляксея доўжыўся 6 секунд. Столькі часу хапіла байцу з Беларусі на спаборніцтвах у Малдове ў 2011 годзе, каб накаўтаваць спартсмена з Польшчы. Хаця той быў цяжэйшы за Аляксея на 30 кілаграмаў.**

**– Колькі вы зарабляеце, калі не сакрэт?**

– Заробак байца ММА залежыць ад колькасці перамог, ад рангу спартсмена, ад рангу саперніка. На сённяя я, бадай што, самы высокааплатны спартсмен ММА у Беларусі. Шмат грошай выдаткоўваецца на медыцынскае абслугоўванне і на харчаванне. На месяц толькі на ежу ідзе каля 1000 долараў.

### Першы час жонка адпраўляла на абед да мамы

***– Жонка не скардзіцца на тое, што ёй даводзіцца шмат гатаваць?***

– Першы час, калі толькі ажаніліся, яна жартавала: “Слухай, схадзі ты сёння паабедай да мамы”. А потым нічога, уцягнулася. Я заўважыў, што паступова з кухні сталі знікаць маленькія каструлі. Засталіся на літраў 5-7.

А мама Аляксея прывыкла гатаваць вялікімі порцыямі. Аляксей выхоўваўся ў шматдзетнай сям’і. Бацька і два браты, як прызнаецца Аляксей, таксама не маленькія. Браты Аляксея жывуць у Маладзечне, але са спортам жыццё не звязалі.

– Маёй дачцэ хутка будзе два годзікі. Неяк не было з кім яе пакінуць, узяў на трэніроўку. Яна стаяла ўсе паўгадзіны, пакуль я біўся, у позе “рукі ў бокі”, уважліва назірала. Дакладна, будзе спартсменкай.

Аляксей прызнаўся, што ў сілавых відах спорту дачку бачыць не хацеў бы. Яму больш даспадобы жаночыя віды спорту: гімнастыка, тэніс, плаванне.

**– Чым займаецца шматразовы чэмпіён свету па-за рынгам?**

– Дапамагаю бацькам будаваць дом, гараж. Магу прыгожа пакласці плітку. Цяпер шмат часу адбірае новая спартыўная зала. Мы з трэнерам Алегам Пятровічам былі ў Амерыцы, падглядзелі, як робяць такія залы там, прывезлі ідэю сюды. Яшчэ тыдні два – і ў Маладзечне пачне працаваць унікальны рынгклетка, аналагаў якому не будзе ва ўсёй краіне.

А ў вольны час быў такі момант у жыцці, калі захапляўся паляваннем. Цяпер фанацею ад нырання ў палонку. Гэта неверагодныя адчуванні – скокнуць у ваду, калі на вуліцы мінус 30!

На пытанне, ці ёсць у яго шкодныя звычкі, Аляксей усміхнуўся і сказаў:

– Я спазняюся часам, але па ўважлівых прычынах, а ідэалы так не робяць.



Фота забяспечана Аляксеем КУДЗІНЫМ.

**Дачцэ Аляксея Сцешы хутка будзе два годзікі. Яна ўжо ходзіць з татам на трэніроўкі, але ў адзінаборствах Аляксей дачку не бачыць.**

*Меню ад чэмпіёна*

Першы сняданак. Кубак салодкага чаю ці какава з двума сыркамі або шакаладкай

Другі сняданак. Пачак макароны (400 грамаў) з сырам

Першы абед. Суп, грэцкая каша

Другі абед. 300-400 грамаў мяса ( курыца, індычка, ялавічны язык).

Акрамя таго, штодзённы рацыён не абыходзіцца без 4-6 вараных яек, 150-200 грамаў сала.

Вітаміны, амінакіслоты і пратэін.



**Наталля ТУР.**
E-mail: natali.turenok@gmail.com



 

**Камент-эксперт** Rh.by

Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420

**Кавалачкі поўсці і скуры ў шніцалі і беляшы. Як маладзечанцы паабедалі ў адным з кафэ горада**

Чаму не пішаце, як называецца кафэ? Трэба ж ведаць, куды хадзіць не варта. *Алеся*

Дык а што за кавярня? Пакуль у іх пройдзе праверка, я там магу паспець з'есці парачку пацучкоў! Патрабую апублікавання назвы! *Я*

## Мінскі абласны драматычны тэатр

### Рэпертуар на лістапад

*РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ*

**ГАСТРОЛІ нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа** (г. Віцебск)

**"Як воўк мамай быў"** (казка-гульня), *Васіль Ткачоў*
11, аўторак; 12, серада; 13, чацвер, – у 10:00 і 13:00

**"Вучань ведзьмака, альбо Бітва чарадзеяў"** (казка-страшылка), *Сяргей Бялоў*
19, серада, – у 12:00

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

**Свінтус грандыёзус, альбо Хто смяецца апошнім"** (камедыя ў 2-х дзеях), *Кандрат Крапіва*
6, чацвер, – у 19:00

**ГАСТРОЛІ нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа** (г. Віцебск)

**"Пахавайце мяне за плінтусам"** (трагікамедыя ў 2-х дзеях), *Павел Санаеў*
11, аўторак, – у 19:00

**"Дыліжанс"** (мюзікл-памфлет), *Гі дэ Мапасан*
12, серада, – у 19:00

**"Пазычанае шчасце"** (іранічная драма ў 2-х дзеях), *Фёдар Палачанін*
13, чацвер, – у 19:00

ПРЭМ'ЕРА. **"Памяць, за сабой пакліч"** (музычна-паэтычны спектакль)
15, субота, – у 17:00

**"Камедыя"** (камедыя ў 2-х дзеях паводле твораў К.Марашэўскага, Ф.Аляхновіча), Уладзімір Рудаў
19, серада, – у 19:00

**Спектакль-фіналіст III рэспубліканскага конкурсу тэатральнага мастацтва "Нацыянальная тэатральная прэмія"**
ПРЭМ'ЕРА. **"Падобны на Стынга"** (рэтра ў 2-х частках), *Ірына Пісьменная*
21, пятніца, – у 19:00

**"Месье з рагамі, мадам з вусамі"** (вадэвільная гісторыя у 2-х частках) *Марсэль Берк'е-Мерыньс Анатоль Курбскі*
22, субота, – у 17:00

Тэатр мае права на замену спектакляў.
*Маладзечна, вуліца Чкалава, 7*
Тэл. для даведак:
**75-24-17** (каса),
**76-17-32** (галоўны адміністратар),
**75-29-16** (намеснік дырэктара).
E-mail: modt@tyt.by,
http://theatre-modt.by/

## Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка" пакажа ў лістападзе

**"Новы калабок"** (сучасная музычная казка), *П.Васючэнка* (ідзе на бел. мове)
2 лістапада – у 12:00

**"Цeрамок"** (добрая казка), *С.Маршак* (рус. мова)
9 лістапада – у 12:00

**"Казка пра цара Салтана"** (казка-паэма), *А.Пушкін* (рус. мова)
16 лістапада – у 12:00

Прэм'ера. **"Шматкі па закутках"** (жыццёвая гісторыя), *Р.Осцер* (рус. мова)
23 лістапада – у 12:00

"Казка пра Ямелю" (чароўная казка), Я.Тарахоўская (рус.мова)
30 лістапада – у 12:00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе: *Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.*
Тэл. (8-0176) **75-36-73**, **76-84-27**.

● **СУДОКУ**

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 5 | | | 1 | | 8 | 6 | |
| | | | 8 | 5 | 9 | | | |
| 8 | | 3 | | | | 5 | | |
| | | 2 | | | 4 | | | 9 |
| | | | 1 | | 2 | | | |
| 7 | | | 5 | | | 4 | | |
| | | 6 | | | | 9 | | 8 |
| | | | 9 | 3 | 5 | | | |
| | 9 | 1 | | 2 | | | 7 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



● **КОНКУРС**

# Выйграй два білеты на канцэрт "Старога Ольсы"

**Гурт сярэднявечнай музыкі дае вялікі сольны канцэрт да свайго 15-годдзя. Ён пройдзе 16 лістапада а 19-й гадзіне ў Мінску ў Палацы культуры МАЗа.**


Фота tabloid.by.

Гурт сярэднявечнай музыкі "Стары Ольса".

Два білеты ад "Старога Ольсы" можна выйграць, даслаўшы ў рэдакцыю рэцэпт старажытнай беларускай стравы. Акрамя гэтага, трэба страву прыгатаваць і даслаць фота.

Чакаем вашых лістоў да 7 лістапада.

Наш электронны адрас: **regionnews@rh.by.**

Наш паштовы адрас: *Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.*

Цана білетаў на канцэрт – ад 90 да 190 тысяч рублёў. Месцы продажу без нацэнкі ў Мінску: пераход Я.Коласа, каса ПК МАЗа. Набыць білеты можна і праз інтэрнэт на сайтах: kvitki.by, ticketpro.by. Усе студэнты, якія набудуць білет папярэдне, у дзень канцэрта атрымаюць кампактдыск у падарунак! Інфалінія: **+375 29 649 08 88.**

**Аддзел інфармацыі.**

● **РЭПЕРТУАРЫ**



## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Камедыя, анімацыя **"Горад герояў"**, 3D (ЗША, 2014, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
31 кастрычніка – у 16:30 (цана білета: 25 000 рублёў)
1 лістапада – у 14:30
2 лістапада – у 17:30
4, 6 лістапада – у 17:00
Цана білета: 30 000 рублёў

Сямейная камедыя **"Аляксандр і жахлівы, кашмарны, нехарошы, вельмі кепскі дзень"** (ЗША, 2014, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
31 кастрычніка – у 14:30 (цана білета: 20 000 рублёў)
1 лістапада – у 16:30 (25 000 рублёў)
2 лістапада – у 15:30 (25 000 рублёў)
5 лістапада – у 16:00 (20 000 рублёў)

Анімацыя, камедыя, прыгоды **"Мядзведзі-суседзі"**, 3D (Кітай, 2014, без узроставых абмежаванняў)
31 кастрычніка, 1 лістапада – у 10:30
2 лістапада – у 13:30
Цана білета: 45 000 рублёў

**"Горка 2"** (Расія, 2014, ад 16 год)
31 кастрычніка, 1 лістапада – у 18:30
4 лістапада – у 19:00
2, 3, 5 лістапада – у 21:30
Цана білета: 45 000 рублёў

Баявік, прыгоды **"Вікінгі"** (Швейцарыя, Германія, ПАР, 2014, ад 16 год)
31 кастрычніка, 1 лістапада – у 21:00
2 лістапада – у 19:30
4 лістапада – у 21:30
6 лістапада – у 19:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Драма **"Сонечны ўдар"** (Расія, 2014, ад 16 год)
3, 5 лістапада – у 18:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Прэм'ера! Прыгоды, фантастыка **"Інтэрстэлар"** (ЗША, Вялікабрытанія, 2014, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
6 лістапада – у 21:00
Цана білета: 45 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Прыгоды **"Неверагоднае перамяшчэнне"** (Беларусьфільм, 2014)
31 кастрычніка – у 16:00 (цана білета: 15 000 рублёў)
1 лістапада – у 16:00 (20 000 рублёў)

Анімацыя **"Оз: Вяртанне ў Ізумрудны горад"** (ЗША, Індыя, 2013, без узроставых абмежаванняў)
1 лістапада – у 14:00 (цана білета: 20 000 рублёў)

Анімацыя **"Лясны патруль"** (Нарвегія, 2013, без узроставых абмежаванняў)
2 лістапада – у 15:00
Цана білета: 20 000 рублёў

Анімацыя **"Кот Гром і зачараваны дом"** (ЗША, Бельгія, 2013, без узроставых абмежаванняў)
31 кастрычніка – у 14:00
Цана білета: 15 000 рублёў

Камедыя **"Кухня ў Парыжы"** (Расія, 2014, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
31 кастрычніка – у 21:30
2 лістапада – у 19:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Трылер **"Нешта"** (ЗША, Канада, 2011, ад 16 год)
1 лістапада – у 21:30
3 лістапада – у 21:00
Цана білета: 35 000 рублёў

**"Белыя росы. Вяртанне"** (Беларусь, 2014, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
31 кастрычніка, 1 і 6 лістапада – у 19:30
2 лістапада – у 21:00
4 лістапада – у 18:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Драма **"Зло"** (Беларусь, 2014, ад 16 год)
31 кастрычніка, 1 лістапада – у 18:00
2 лістапада – у 17:00
5 лістапада – у 19:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Прэм'ера! Трылер **"Дом у канцы вуліцы"** (ЗША, Канада, 2013, ад 16 год)
4, 5 лістапада – у 21:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Прэм'ера! Баявік **"Пластык"** (Вялікабрытанія, 2013, ад 16 год)
6 лістапада – у 21:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

## Кінатэатр "Мір", Вілейка

Меладрама **"Абяцанне"** (Францыя, з 16 год)
31 кастрычніка – у 18:00
Цана білета – 35 000 рублёў

Меладрама **"Белыя росы. Вяртанне"** (Беларусь, дзецям да 14 год прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
31 кастрычніка – у 21:00
1 лістапада – у 21:00
2 лістапада – у 18:00
Цана білета – 35 000 рублёў

Анімацыя **"Індыкі: назад у будучыню"** (ЗША, без узроставых абмежаванняў)
1, 2 лістапада – у 15:00
Цана білета – 15 000 рублёў

Трылер **"Нешта"** (ЗША, Канада, дзецям да 14 год прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
1 лістапада – у 18:00
Цана білета – 35 000 рублёў

Камедыя **"Бландзінка ў эфіры"** (ЗША, з 16 год)
2 лістапада – у 21:00
Цана білета – 35 000 рублёў

Тэл.: **8(01771), 5-43-61, 5-60-95, 5-68-59**

● **ГАРАСКОП**
**31.10-6.11**


**Авен.** Мары фарміруюць рэальнасць. Уявіце сабе: вашы жаданні здзейсніліся, і вас перапаўняе шчасце. Не сядзіце на месцы, прадпрымайце рашучыя крокі, каб нечага дасягнуць.


**Цялец.** Будзьце ў добрым настроі, аптымізм яшчэ нікому не перашкаджаў. Не спяшайцеся паспець усё і адразу: тое, што лёс прызначыў менавіта вам, ад вас нікуды не дзенецца.


**Блізняты.** Вы поўныя пачуццяў і імкненняў, і ваш эмацыйны парыў знаходзіць адлюстраванне ў навакольным свеце. Будзьце эмацыйныя і таварыскія, і гэта дазволіць вам знайсці доўгачаканае каханне.


**Рак.** Радуйцеся падарункам лёсу і прымнажайце іх. Не бярыце на сябе абавязацельствы, якія высмоктваюць з вас энергію.


**Леў.** У вас ёсць запаветная мара, але яна надта глыбока ляжыць у вас унутры, трошкі выцягвайце яе наверх, сілкуйце сваёй энергіяй, уяўляйце, і яна абавязкова здзейсніцца.


**Дзева.** Знайдзіце "дарогу да сябе", і вы станеце самім сабой, займеце ўнутраны спакой.


**Шалі.** Звяртайце ўвагу на здароўе. А ад таго, як будзеце сябе адчуваць, залежаць шчасце ў асабістым жыцці, поспех, кар'ера.


**Скарпіён.** Вы надзвычай патрабавальныя і да сябе, і да навакольных. Ваш дыктатарскі падыход не пакідае месца эмоцыям. Вы думаеце, што ўсе вакол павінны выконваць вашу волю, а чаму – не важна. У вас паўстане выбар паміж загадам і просьбай.


**Стралец.** Зоркі абяцаюць вам духоўны пад'ём. Шмат хто зразумее, што жыў няправільна, пераасэнсуе сваё жыццё, даруе крыўды і сам папросіць даравання ў тых, каго пакрыўдзіў.


**Казярог.** У вас будзе небывалая здольнасць мець уплыў на навакольных. Але не забывайце, што злоўжываць такімі рэчамі нельга.


**Вадалей.** Перадолейце ўнутраныя сумненні, якія скоўваюць вас мацней за любыя знешнія перашкоды, выберыце свой шлях і пачніце дзейнічаць – поспех не за гарамі.


**Рыбы.** Развівайцеся духоўна, працуйце над сабой, жывіце з максімальнай аддачай, каб атрымаць цудоўныя вынікі. Нябесная сфера не застанецца ў даўгу.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

